Дадатак да газэты „Камунар Магілеўшчыны“

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ТЭРАРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У МЕСЯЦ

№ 9 Нядзеля 8 сьнежня 1929 г. № 9

## На новыя рэйкі

Сучасны размах калектывізацыі вёскі павінен унесьці і ў нашу сыстэму паміжзборавай работы новыя моманты.

Пераменьнік павінен быць адным з актыўных арганізатараў калгасаў. З другога боку нам трэба больш арыентавацца на разгортваньне работы сярод калгасьнікаў, дабіваючыся паступова таго, каб калгасы і саўгасы зьявіліся апорнымі пунктамі, цэнтрамі, вакол якіх павінна гуртавацца астатняя частка пераменьнікаў.

Выяжджаўшыя ў дні Кастрычнікавага сьвята на раён таварышы знайшлі арганізаваную і сталую работу па ваенізацыі насельніцтва і пераменьнікаў толькі ў трох пунктах: фабрыцы „Спартак“, калгасе імя Дзесяцігодзьдзя БССР і савецкай гаспадарцы „Дашкаўка“. А ў астатніх пунктах звычайны малюнак: паміжзборавай работы за летні пэрыяд ня было, мясцовыя савецкія органы і парт‘ячэйкі за гэтую работу ня браліся і не бяруцца. Вайсковыя куткі разбураны, літаратуры няма, актыў вакол вайсковых куткоў ня створаны пераменнікі свае індывідуальныя заданьні амаль зусім не прапрацоўваюць, сродкаў на вайсковыя куткі ніхто не адпушчае і г. д.

Бязумоўна, у калгасах работа сярод пераменьнікаў можа быць пастаўлена куды лепей, калгас хутчэй асыгнуе сродкі на гэтую справу і г. д.

У калгасы пайшлі зараз лепшыя сілы нізавога актыву. Так, напрыклад, з 41 асобы малодшых камандзіраў, што звольнены ў бестэрміновы водпуск, палова пайшла ў калектывы. Яны разам з начскладам запаса будуць складаць кадры арганізатараў і кіраўнікоў сярод пераменьнікаў і ў гуртках вайсковых ведаў.

Пераход на новыя рэйкі ў паміжзборавай рабоце трэба паставіць больш рашуча перад тэрчасткамі.

*Коцікаў.*

## Новы начальнік ПУБВА
### т. Аранштам

*Тав. Аранштам, нядаўна прызначаны загадам Рэвваенсавету СССР начальнікам палітычнай управы Беларускай вайсковай акругі, нарадзіўся ў 1896 годзе. Ён уступіў у партыю ў 1916 г. Тав. Аранштам удзельнічаў у Маскоўскім паўстаньні 1917 году, быў чырвонагвардзейцам. У грамадзянскай вайне ўдзельнічаў чырвонаармейцам, ваенкомам дробных частак, камісарам дывізіі, корпусу, быў інспэктарам артылерыі РСЧА. У баях супроць Дзянікіна ён быў паранены. За баявыя ўчынкі ў дагэстанскіх бойках узнагароджаны штандарам Чырвонага Сьцягу. Апошні час т. Аранштам працаваў сэкратаром віцебскага акруговага камітэту КП(б)Б.*

## Наладзім працу гурткоў

Уся вайсковая прапаганда на вёсцы ідзе праз масавую работу і гурткавую.

Вельмі часта нашы гурткі не дажываюць да канца, а развальваюцца ў пачатку занятак, ці ў сярэдзіне. Гэта бывае не таму, што ня хочуць займацца ўдзельнікі гурткоў, а таму, што ёсьць шэраг памылак у арганізацыі і працы гурткоў.

Перш за ўсё трэба ўзяць за прынцып ня гнацца за колькасьцю слухачоў, а за іх якасьцю. Не абавязкова пачынаць работу пры 30-35 ч., можна пачынаць пры 8-10 ч.

### Як арганізоўваць гурткі

Вядома, калі ў гурток запішуцца праслужыўшыя два гады ў Чырвонай арміі і людзі няпісьменныя ў вайсковай справе, дык такі гурток разваліцца. Значыцца, трэба арганізоўваць гурток выходзячы з вайсковай пісьменнасьці (гурток з пераменьнікаў, для дапрызыўнікаў, дзяўчат і г. д.)

Гурток толькі тады будзе нармова працаваць, калі ўсе яго слухачы будуць уцягнуты ў актыўную працу, для гэтага ў праграме гуртка неабходна ўлічыць практычную працу: выхад у поле для выпрацоўваньня простых тактычных задач, правядзеньне стрэльбаў, правядзеньне розных спаборніцтваў паміж слухачамі гуртка, скажам, на лепшую ўцямлівасьць матар‘яльнай часткі стрэльбы і інш. Даручаць сябрам гуртка правядзеньне масавай працы сярод насельніцтва (у хаце-чытальне, вайсковым кутку і г. д.). На занятках неабходна ўжываць мэтад самастойнай працы над падручнікамі, статутамі і інш. матар‘яламі, што патрэбны будуць для праходжаньня тэм.

Гурток выбірае з свайго складу бюро, якое супольна з кіраўніком, улічваючы гэтыя пытаньні, праводзіць іх у жыцьцё.

Працаваць неабходна пад сьцягам сацыялістычнага спаборніцтва як паміж асобнымі гурткамі, так і сябрамі ўнутры гуртка.

*С. В.*

## Настаўнікі ваенізуюцца

Студэнты і настаўнікі Магілеўскага пэдтэхнікуму шчыра ўзяліся за ваенізацыю. Так, настаўнікі арганізавалі вайсковы гурток, заняткі ў якім праводзяцца 3 разы ў месяц. Праца ідзе пасьпяхова, зацікаўленасьць з боку слухачоў вельмі вялікая. Пакуль што дрэнна з наведваньнем, заўсёды ня прысутнічае 10-15 проц.

Студэнты на 75 процантаў запісаліся дабраахвотнікамі ў Дальне-Усходнюю армію і стварылі вайсковы гурток, што значна папаўняе праграму абавязковага навучаньня.

Настаўнікі абяцалі падцягнуцца з наведваньнем гуртка і ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва выклікалі настаўнікаў астатніх тэхнікумаў г. Магілева на арганізацыю лепшага вайсковага гуртка.

*Д. Н.*

У КАЛГАСЕ „ЧЫРВОНААРМЕЕЦ“

# НА ПРАВІЛЬНЫМ ШЛЯХУ

## Ніводнага тэрармейца—па-за калгасам

## Зьнішчым межы, хутары, арганізуем новыя сотні, тысячы калгасаў, калектывізуем усю акругу!

### З чаго пачынаецца

Чырвонаармейскі калгас імя №-скай дывізіі арганізаваўся на Недашаўскіх хутарох 4 месяцы таму назад.

У гэты калгас увайшло спачатку 12 чырвонаармейцаў і 8 мясцовых сялян-беднякоў. Але з кожным днём склад калгасьнікаў рос. На цяперашні час калгас налічвае 23 чалавекі чырвонаармейцаў і 4 мясцовых беднякоў.

За час існаваньня калгасу адтуль былі выключаны 5 асоб, якія дэзарганізавалі калгас, падрывалі ў ім працу.

Зараз засталіся тыя, якія сапраўды хочуць працаваць і сумленна працуюць.

### Галоўныя цяжкасьці пераможаны

Прышоўшы з шэрагаў Чырвонае арміі, ня маючы ні страхі ні маёмасьці, калгасьнікі сталі перад надзвычайна цяжкімі ўмовамі.

Яны ў грунт сваёй першапачатковае працы палажылі пабудову жылых памяшканьняў, якіх у іх зусім ня было і ўзяліся за апрацоўку і засеў збожжа.

Атрымаўшы 12 тысяч руб. крэдыту, калгасьнікі перш-на-перш узяліся за пабудову жылых памяшканьняў і для жывёлы.

І вось, за гэты кароткі час, дзякуючы аддана старанасьці, без усялякае дапамогі, сваімі рукамі калгасьнікі пабудавалі тры дамы і 3 хлявы для жывёлы.

Да гэтага часу яны жылі ў двох маленькіх будынках, па 20 чалавек у адным, а зараз пераходзяць у новыя дамы.

Пабудавана памяшканьне і адчынены ў ім каапэратыў.

Галоўныя цяжкасьці, што пужалі калгасьнікаў—гэта пабудова жыльлёвых дамоў. На сёняшні дзень яны пераможаны.

Другой, ня менш важнай задачай, была пастаўлена апрацоўка глебы і засеў азімага кліну.

З маючыхся 596 гэктараў зямлі калгасьнікі засеялі 60 гэктараў пад азімы клін і поўнасьцю ўзаралі плошчу пад зяб. Усяго ўдобнай зямлі ў калгасе 450 гэкт., а рэшта пад лесам і лугам.

### Калгас мае на 20000 руб. маёмасьці

Пры арганізацыі калгасу ніякай маёмасьці ня было. Зараз—гэта значыць праз 4 месяцы —чырвонаармейская гаспадарка-калгас мае маёмасьці больш, як на 20000 руб.

Набыта 15 кароў па 150-200 р. у сярэднім кожная, палепшанай пароды, 2 вытворнікі тырольскай і швіцкай пароды, 20 коняй, 4 іёркшырскіх сьвіньні, 2 бараны „экшырфурдоўн“ і 2 авечкі гэтайжа пароды. З сельска-гаспадарчых машын набыта 1 радав. сеялка, 20 плугоў, 4 спружынных бараны, 10 барон „зіг-заг“, 4-ра калёсаў і інш.

### Восенскі сеў прайшоў здавальняюча

Хоць з некаторым спазьненьнем пачаўся сеў, але дзякуючы старанасьці самых калгасьнікаў і дапамогі №-скай дывізіі, якая неаднаразова пасылала брыгады чырвонаармейцаў з коньмі ў дапамогу, сеў калгасьнікі скончылі своечасова.

Для ўгнаеньня азімага кліну калгасьнікі набылі на 1200 руб. гатунковага ўгнаеньня, што поўнасьцю задаволіла запатрабаваньні.

## З рэзалюцыі маладых чырвонаармейцаў-магілеўцаў па дакладу—„12 год“

„Мы чырвонаармейцы‘“, нарадзіўшыяся ў 1907 годзе, прыбыўшыя ў шэрагі №-скага каўкаскага палка ад Магілеўскай акругі ў дзень 12-ай гадавіны Кастрычніка, з гонарам заяўляем, што ў кожную хвіліну гатовы стаць на абарону пралетарскай рэвалюцыі, заваяванай крывёю нашых братоў і бацькоў“.

Далей у пастанове гаворыцца аб моцы нашае Чырвонае арміі, у прыватнасьці, Дальне-Усходняй, якая стаіць на варце нашых межаў. Пастанова заканчваецца наступнымі лёзунгамі:

„Вышэй баявыя штандары; наперад, пад кіраўніцтвам штабу сусьветнай рэвалюцыі—камінтэрну; да новых дасягненьняў і перамог сацыялістычнага будаўніцтва!“.

### Ня без перашкод

Вялікую перашкоду для разгортваньня працы ў калгасе ўтварала мясцовае кулацтва.

Ня кажучы ўжо аб тэй „агітацыі“ і хлусьні, якую распаўсюджвалі кулакі, яны даходзілі да таго, што не прадавалі ім харчэй і нават на лепшых таварышоў-арганізатараў рабілі напады.

Але байцоў гэта ня пужала, і яны цьвёрда, з чырвонаармейскім запалам, руйнавалі межы, паставіўшы мэтай пачатую справу давесьці да канца.

І зараз калгасьнікі, дзякуючы сваёй моцнасьці, згуртаванасьці, маюць вялікі ўплыў на акаляючую бядняцка-серадняцкую частку сялянства. У калгас ужо прыходзіў шэраг сялян на экскурсію.

### На будучы год

На будучы год калгасьнікі мяркуюць разгарнуць шырокае будаўніцтва. Мяркуецца пабудова 2 будынкаў для жывёлы, па 150 кароў кожны, канюшні сьвінарніку на 40 матак, малочнага заводу, 3 двохпавярховых дамоў на 40 сямей, агнятрывалага абознага хлеву, сенавалу, лазьні агульнае кухні і набыцьце патрэбнага інвэнтару.

Мяркуецца засеяць 250 гэктараў пад яравыя культуры, 30 гэктараў—пад бульбу, 30—пад карняплоды і г. д., а таксама мяркуецца засадзіць сад на 20 гэкт.

Разгорнута праца па пашырэньні калгасу за рахунак акаляючай беднаты і серадняцтва.

### На што трэба зьвярнуць увагу

Адна з галоўнейшых работ у калгасе—спагнаньне паявых узносаў, гэтая праца на сёняшні дзень кульгае.

Усяго ўнясьлі паі 8 калгасьнікаў.

Таксама слаба абстаіць і культасьветная праца ў калгасе. Адсутнічае ўсялякі вучот.

Надалей калгас мае ўсе пэрспэктывы для разьвіцьця. Ён стаў на правільны шлях вытворча-гаспадарчага жыцьця.

*Ал. Лясны.*

## З жыцьця калгасу „Тэрармеец“

Недалёка ад Чавус, у раёне камплектаваньня №-скага стр. палка, на месцы лжэкалгасу, арганіваўся палкавы чырвонаармейскі калгас „Тэрармеец“. Спачатку ў калгас запісаліся кадравыя чырвонаармейцы і пераменьнікі, а зараз у „Тэрармейцы“ засталося толькі 6 пераменьнікаў палка.

Работу распачалі, як кажуць, на голым месцы, маючы ў спадчыну ад былога „калгасу“ толькі адзін хлеў. Зараз калгас налічвае 4 коняй, 2 каровы, некалькі сьвіней і сельска-гаспадарчых машын. Пабудавалі дом. Засеяна 16 гэктараў азіміны, нарыхтавана на зіму сена і г. д.

Калгас зьявіўся лепшым агітатарам у справе калектывізацыі для акаляючага працоўнага сялянства, сярод якога пашыраецца імкненьне да ўваходу ў калгасы. З боку былых лжэкалгасьнікаў (сярод якіх ёсьць былы жандар і кулацкія элемэнты) да чырвонаармейскага калгасу зьявілася злосьць. Яны застрашчваюць беднату і сераднякоў каб ня ішлі ў калгас. Трэба было б, як мага хутчэй, перасяліць гэтых „тыпаў“ на іншыя зямельныя вучасткі, адносна чаго маецца пастанова зямельнай камісіі.

Вялікую маральную і матар'яльную дапамогу свайму калгасу аказвае Чавускі полк. Партыйная і камсамольская арганізацыі, разам з усім складам палка, правялі некалькі суботнікаў на карысьць калгасьнікаў, дапамаглі рабочаю сілаю, дапамагаюць парадамі і ўсім чым магчыма. Самі-ж калгасьнікі ўпарта працуюць у калгасе, каб давесьці, што калгасы ёсьць сапраўды лепшая форма вядзеньня сельскай гаспадаркі.

*Б. В.*

## Да ўвагі Калгассаюзу

Гэта было яшчэ вясною. Вербавала ў калгасы дывізія лепшых чырвонаармейцаў. Запытаў палітаддзел дывізіі ў Калгассаюзе, у якія калгасы і колькі чырвонаармейцаў можна накіраваць. З таго часу дывізія арганізавала два калгасы, правяла курсы калгасьнікаў і дэмабілізавала чырвонаармейцаў. Паехалі яны ўжо даўно, хто куды.

А вось 30 лістапада прыходзіць такая паперка:

*„Палітаддзелу штаба №-га корпусу. Разам з гэтым Акркалгассаюз просіць вас пры дэмабілізацыі накіраваць нам неабходную колькасьць чырвонаармейцаў, жадаючых паступіць сябрамі ў калгасы для накіраваньня іх у апошнія паводле іх выбару, згодна гэтага сьпісу. Дадатак: памянёнае. Праўленьне“.*

Так, лепш позна, чым ніколі. Вельмі ўдзячны за ўспамінак, але просім заўважыць наступнае:

1. Няма палітаддзелу штаба корпусу, бо палітаддзел ня ёсьць аддзел штабу. Ня скажаце-ж вы камунаддзел аддзелу аховы здароўя.
2. Няма ўжо і чырвонаармейцаў, з месяц як дэмабілізаваліся. *Свае.*

## Увага вайсковай працы клюбаў

Перад намі ва ўсю шырыню высоўваецца пытаньне аб далейшым гортваньні ваенізацыі. За гэтую справу належыць узяцца нашым клюбам і нардамам. Пакуль што тут яны яшчэ нічога не зрабілі, нібы гэта да іх не датычыцца. Трэба зараз-жа ўзяцца за арганізацыю пры клюбах вайсковых габінэтаў, дзе неадкладна прыступіць да разгортваньня вайсковай работы сярод сяброў авіяхэму і прафсаюзаў.

Што мы бачым у рабочых клюбах, альбо нардамах? Мы бачым „куткі“, 2-3 вайсковых плякаты, пару лёзунгаў пра вайсковую небясьпеку і... больш нічога.

Што даюць гэтакія куткі? Нічога. Літаратуры пры іх няма ніякай, як няма і працы.

Арганізацыя наша значна павялічылася, размах работы стаў куды больш шырокім, чым быў, і даўно пара ад слоў перайсьці да справы. Гэта залежыць галоўным чынам ад прафсаюзных арганізацыяў.

Вайсковыя габінэты павінны стаць моцнай базай ваенізацыі шырокіх колаў працоўных мас. Трэба толькі па сапраўднаму ўзяцца за гэтую справу, вылучыўшы пад габінэты асобныя памяшканьні, арганізаваўшы пры іх патрэбныя аддзелы і інш. Трэба прызначыць загадчыкаў габінэтаў з начскладу запаса, арганізаваць вайсковую бібліятэку, папавялічыўшы колькасьць вайсковай літаратуры.

ДЧА і вайсковыя часткі могуць і павінны дапамагчы арганізацыі і працы вайсковых габінэтаў. *Бельскі.*

## Даёш лыжы

Сучасны момант аднэй з задач высоўвае фізычную падрыхтоўку байца. Спорт і фізпадрыхтоўка— гэта адна з умоў паляпшэньня баявой падрыхтоўкі частак Чырвонай арміі. Нашая задача паставіць на лыжы ня толькі чырвонаармейца-кадравіка, але таксама і пераменьніка. Усім добра вядома, што тактычныя заняткі ўзімку дадуць вялікія вынікі, калі наш чырвонаармеец будзе падрыхтаваны да працы на лыжах. Часткам дывізіі неабходна вылучыць некалькі пар лыжаў для ротных-батарэйных вайсковых куткоў, і рашуча паставіць пытаньне перад мясцовымі арганізацыямі аб вылучэньні неабходных сродак на гэтую справу.

Пераменьнікі 5-й батарэі артпалка практычна ўзяліся за вырашэньне гэтага пытаньня, яны ўхвалілі забясьпечыць кожную вайсковую групу вёскі ня менш, чым 3-мя парамі лыж, для чаго мабілізаваць сродкі ячэек авіяхэму, сабраць усе лыжы, што маюцца ў асобных пераменьнікаў, для агульнага карыстаньня, даручана майстрам-пераменьнікам зрабіць новыя.

Неабходна пытаньне пра лыжы паставіць ва ўсіх частках перад усімі пераменьнікамі, стварыўшы вакол гэтага грамадзкую думку. Набыць лыжы і навучыць пераменьніка працаваць на іх—гэта значыць уздымаць баявую падрыхтоўку нашых тэрчастак.

*Драбышэўскі.*

## Пра праграмы ваенізацыі

У прысылаемых праграмах для ваенізацыі вучняў тэхнікумаў зусім не прадугледжаны гадзіны для азнаямленьня з тэхнічнымі сродкамі барацьбы. Узрост нашай вайсковай тэхнікі ідзе шпаркім тэмпам уперад і вядома, што будзе памылкаю не адлюстроўваць і не вывучаць яе ў нашай дапрызыўнай падрыхтоўцы са студэнцтвам. Я лічу гэта недахопам і трэба каб прэзыдыум акррады ТДА-Авіяхэму перагледзіў праграмы, дапоўніў іх разьдзелам—„тэхнічныя сродкі барацьбы“, авіяцыя, хэмія, бронечасткі і інш.

Дапрызыўнік, ды яшчэ высокакваліфікаваный, па свайму агульнаадукацыйнаму цэнзу, ня ведаючы тэхнікі і як яе скарыстоўваць, ня будзе ведаць і мэтадаў барацьбы з ёю.

*Даронін.*

# Зімовы час скарыстаем

Паміжзборавая праца ў раёне комплектаваньня роты сувязі дывізіі пачынае прымаць больш жвавы характар. З дапамогаю Магілеўскага райвыканкому створана матар'яльная база, неабходная для разгортваньня вайсковай работы. Закупілі дробна-калібэрныя стрэльбы для кожнага вайсковага кутка, неабходную колькасьць разнастайных плякатаў і г. д. Рота вылучыла вайсковыя бібліятэчкі і шэраг экспанатаў па спэцыяльнасьці.

Пад кіраўніцтвам кадравага начскладу маса пераменьнікаў усё больш і больш уцягваецца ў актыўную працу вайсковых куткоў. У Палыкаўскім сельсавеце ўжо здолелі правесьці два масавых вайсковых вечары, дзе выявілася вялікая зацікаўленасьць пераменьнікаў і насельніцтва да вайсковай работы.

Можна быць упэўненым, што зімовы час дарма не прападзе, яго можна будзе поўнасьцю скарыстаць для замацаваньня шчыльнай сувязі кадра з пераменьнікамі і ўздыму вайсковай падрыхтоўкі апошніх.

*М.*

# Удзельнічаем у нарыхтоўках

Пераменьнікі 5-й батарэі артпалка, ня гледзячы, што па іх сельсавету плян хлебанарыхтовак быў выкананы поўнасьцю і нават з перавышэньнем, кінулі лёзунг: „даёш чырвоны абоз пераменьніка“. Лёзунг не застаўся на паперы, яго ператварылі ў жывую справу.

Актыў пераменьнікаў па гэтаму пытаньню вылучыў ударную тройку і лёзунг стаў думкаю ўсіх працоўных сялян. Актыўны ўдзел у гэтай важнай справе прынялі мясцовыя партыйцы і камсамольцы. Вынікі праведзенай работы можна лічыць здавальняючымі, сабралі па падпісным лістам каля 400 пудоў жыта, якое здадзена ў каапэрацыю. Уперадзе ўсіх ідзе вёска Агееўшчына. Тройка паставіла сабе мэтай давесьці збор да 500 пудоў, што, безумоўна, будзе поўнасьцю выканана. Разам з гэтым пераменьнікі 5-й батарэі выклікалі 6-ю батарэю на збор і здачу маючыхся лішкаў, і ня менш чымся 500 пудоў.

*Д. Г.*

**З 15 лістапада 1929 г. па 5 лютага 1930 г.**

Магілеўскай поштай, сумесна з рэдакцыяй „Камунара Магілеўшчыны“ і пры ўдзеле камсамолу, праводзіцца

## КОНКУРС

**на лепшага гарадзкога і вясковага лістаносца лепшы раён у акрузе па збору падпіскі на газэты і часопісі і дастаўцы іх наогул і на „КАМУНАР МАГІЛЕЎШЧЫНЫ“—асобна.**

**Умовы конкурсу**

**для гарадзкіх лістаносцаў:**

1) Найбольшы прыём індывідуальнай падпіскі на ўсе газэты наогул і на **„Камунар Магілеўшчыны“**—асобна.
2) Прыём падпіскі на больш доўгі тэрмін.
3) Найбольшы ахоп падпіскаю кватэр.
4) Сваечасовы выхад у разноску і акуратнасьць дастаўкі.

**На лепшы раён і для вясковых лістаносцаў:**

1) Найбольшы збор падпіскі і ахоп падпіскаю двароў і насельніцтва на газэты наогул і на **„Камунар Магілеўшчыны“**—асобна.
2) Лік надпіскі, прынятай на больш доўгі тэрмін.
3) Акуратнасьць дастаўкі па хатах, там дзе ўстаноўлен абход.

**По сканчэньні конкурсу будуць выдадзены ГРОШОВЫЯ ПРЭМІІ усяго 275 рублёў.**

Па гораду лепшым 3-м лістаносцам па газэтах наогул: 1-я прэмія—30 руб., 2-я—20 руб. і 3-я—10 руб. і па **„Камунару Магілеўшчыны“**. 1-я—12 руб., 2-я—8 руб. і 3-я—5 руб.

Лепшым 3-м раёнам: 1-му—50 руб., 2-му—35 руб. і 3-му—30 руб., якія выдаюцца лепшым 2 мястэчкавым, ці вясковым лістаносцам у раёне У 1-м раёне: 1-я прэмія—15 руб. і 2-я—10 руб. і па **„Камунару Магілеўшчыны“**: 1-я—15 руб і 2-я—10 руб.; у 2-м раёне: 1-я—12 руб. і 2-я—8 руб: і па **„Камунару Магілеўшчыны“**: 1-я—10 руб. і 2-я—5 руб.; у 3-м раёне і 1-я—10 руб. і 2-я—5 руб. і па **„Камунару Магілеўшчыны“**: 1-я—10 руб. 2-я—5 руб.

Лепшым 3-м вясковым лістаносцам па ўсёй акрузе па газэтах наогул: 1-я прэмія—15 руб., 2-я—10 руб. і 3-я—5 руб. і па **„Камунару Магілеўшчыны“**: 1-я—20 руб., 2-я—15 руб. і 3-я—10 руб.

**УВАГА:** 1) Лепшы лістаносец па падпісцы наогул можа быць адначасова і лепшым па **„Камунару Магілеўшчыны“**, тады ён атрымлівае 2 прэміі.

2) Лепшы лістаносец у раёне, можа быць адначасова лепшым лістаносцам і па ўсёй акрузе, як па газэтах наогул, так і па **„Камунару Магілеўшчыны“**, і тады ён атрымлівае прэмію і па раёну і па акрузе.

Напрыклад: Чавускі раён узяў 1-ю прэмію, у ім лепшы лістаносец **Сідараў**, як па газэтах наогул, так і па **„Камунару Магілеўшчыны“** і ён арымлівае 15+15 руб.=30 руб.; аднačасова, гэты самы Сідараў зьяўляецца лепшым лістаносцам і па ўсёй акрузе і атрымлівае 15+20=35 руб., а ўсяго 65 руб.

**Усе, як адзін, у спаборніцтва на лепшы раён, на лепшага лістаносца!**

Рабкоры, селькоры, камсамольскія арганізацыі і ўся савецкая грамадзкасьць заклікаюцца пісаць у газэту **„Камунар Магілеўшчыны“** аб усіх добрых і адмоўных бакох таго ці іншага лістаносца як па збору падпіскі, так і па дастаўцы газэт.

*Пошта. Рэдакцыя. АК ЛКСМБ.*

# ТДА-Авіахэмаўскія навіны

◆ У сьнежні месяцы. пры акррадзе арганізуецца каротка-тэрміновы сэмінар разьлічаны на кіраўнікоў вайсковымі гурткамі. Сэмінар ахопіць толькі работнікаў гораду, лікам да 35 асоб.

◆ 8-га сьнежня акррада сумесна з Домам Чырвонай арміі праводзіць стралковыя спаборніцтвы з баявой і дробна-калібэрнай стрэльбы і рэвальвэра-нагана. У спаборніцтве маюць права ўдзельнічаць начсклад кадра і запаса залогі, а таксама і жонкі вайсковаслужачых.

Лепшыя стралкі будуць прэміраваны.

◆ Хутка будзе арганізаваны вайсковы вечар у рабочым клюбе будаўнікоў і стралковыя спаборніцтвы паміж сябрамі саюзу будаўнікоў і сябрамі ТДА-Авіахэму. Мэта вечару—шырэй прыцягнуць увагу рабочых да ваенізацыі і ўзмацніць работу ячэйкі ТДА-Авіахэму.

◆ У гэтым месяцы акррада прыступае да складаньня 5-ці гвдовага пляну работы.

## Чырвонаармейцаў—у лётныя школы

Рэвваенсавет Саюзу ўстанавіў ільготныя ўмовы прыйму для чырвонаармейцаў, жадаючых паступіць у лётныя школы. Да паступленьня ў школу дапушчаюцца ўсе вайсковыя служачыя, якія праслужылі ў шэрагах РСЧА адзін год. Усе часткі войск снабжаюцца неабходнымі весткамі аб школах вайскова-паветраных сіл і з умовамі прыйму.